**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№17(629)**
**26 красавіка 2012 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



## У Мосарскую парафію запрашаюцца баяністы

### На фэст у в. Савуткі запрашаюцца баяністы і акардэяністы



**Традыцыйна ў філіяльнай капліцы Мосарскай парафіі ў в. Савуткі Шаркоўшчынскага раёна адбываецца тытулярны фэст святога Юзафа-рамесніка. У гэтым годзе святкаванне пройдзе 29 краса-віка ў нядзелю а 15-й гадзіне.**

Таму пасля ўрачыстай Святой Літургіі вернікі працягнуць святкаванне аж да позняга вечара. На фэст у в. Савуткі вельмі запрашаем баяністаў і акардэяністаў з наваколля, каб не толькі памаліцца Богу, але і заспяваць цудоўныя песні і патанчыць.

**Кантакты:**
Ксёндз Аляксей Юркайць, адміністратар парафіі Мосар.
Вул. Цэнтральная (касцёл).
211807 в. Мосар, п/а Мосар, Глыбоцкі раён, Віцебская вобласць
+ 375-33-676-1000.
E-mail: Mosarterra@gmail.com
Mosarland@open.by
Alexius_blr@mail.by
Skype:Alexius230

## З 9 ліпеня ФБР заблакуе завірусаваным камп'ютарам доступ да Інтэрнэту

**Гаворка пра вірус DNS Changer, якім заразілі кампы эстонскія хакеры.**

Летась у лістападзе супрацоўнікі ФБР затрымалі шасцярых грамадзян Эстоніі па падазрэнні ў махлярстве ў сетцы Інтэрнэт і ў заражэнні вірусам DNS Changer тысяч кампоў ва ўсім свеце.

Хакеры выкарыстоўвалі вірус для таго, каб перанакіроўваць карыстальнікаў на ўласныя вэб-сайты, на якіх яны размяшчалі рэкламу. За колькасць праглядаў рэкламнай інфармацыі на гэтых рэсурсах хакеры атрымлівалі грошы. Яны незаконна зарабілі да $14 млн.

У ФБР заявілі, што кіберзлачынцы заразілі вірусам каля 85 тысяч камп'ютараў у адных толькі ЗША, у тым ліку аперацыйныя сістэмы NASA.

ФБР стварыла сайт www.dcwg.org, на якім інтэрнаўты могуць праверыць свае кампы на вірус.

Пакуль ФБР актывавала часовыя рэсурсы, каб пазбегнуць неадкладнага адсячэння ад Інтэрнэту заражаных камп'ютараў і даць час карыстальнікам на ачыстку сваіх лэптопаў.

9 ліпеня ФБР зачыніць гэтыя часовыя сэрвісы, таму і заклікае ўсіх праверыць камп'ютары і вычысціць вірус.

*Паводле Cnn.com*

## У Мосары адчынілася "Парафіяльная бібліятэка" памяці благаслаўлёнага Яна Паўла II

**Ксёндз Аляксей Юркайць,**
*адміністратар парафіі Мосар.*

**У другі дзень Велікодных святаў 2 красавіка бягучага года, у дзень смерці Вялікага Пантыфіка благаслаўлёнага Яна Паўла II, рыхтуючыся да 1-ай гадавіны беатыфікацыі, якая адбылася 1 мая 2011 года, у Мосарскай парафіі адчынілася парафіяльная бібліятэка.**

Кнігазбор бібліятэкі пакуль што налічвае толькі каля 400 пазіцый. Усе кнігі падзеленыя тэматычна на раздзелы. Асаблівай увагі заслугоўваюць творы благаслаўлёнага Яна Паўла II.

Бібліятэка паўстала дзякуючы людзям і будзе служыць для людзей. Бібліятэка толькі пачынае сваё існаванне і таму кожны можа ахвяраваць кнігі. Усе жадаючыя могуць скарыстацца бібліятэкай, пазычыўшы кнігу на 1 месяц.



Працаваць бібліятэка будзе за 30 хвілін да Святой Літургіі штодня, акрамя панядзелка і аўторка.

Мосарскі "Санктуарый св. Юстына-мучаніка" паступова становіцца духоўным цэнтрам Віцебскай дыяцэзіі на базе створанай прыгажосці, які збірае вакол сябе людзей, якія шукаюць Бога і адкрыццё бібліятэкі пры Касцёле – гэта вялікая радасць для парафіянаў і жыхароў навакольных вёсак і гарадоў. Многія людзі змогуць карыстацца духоўнай і рэлігійнай літаратурай. Па ініцыятыве душпастыра парафіі ксяндза Аляксея Юркайця і дзякуючы добрым парафіянам адбылая гэтая доўгачаканая падзея.

Трэба адзначыць, што ў нашай краіне загадам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 30 снежня 2011 года № 618 2012 год абвешчаны годам Кнігі, а таксама ў гэтым годзе ў Глыбоцкім раёне адбудзецца рэспубліканскае свята "Дзень Беларускага Пісьменства", таму паўстанне "Парафіяльнай бібліятэкі" ў Мосары з'яўляецца добрым знакам, што жыхары раённых цэнтраў Паўночнага рэгіёна змогуць больш чытаць духоўную і рэлігійную кнігу!!!

## Шаркоўшчынскі раён

# Адным доўгабудам меней?

■ Станіслаў Раманчук

**Працяглы кавалак часу, цэлых 15 гадоў, у лепшым выпадку, спатрэбіцца для ўзвядзення новай цэнтральнай раённай бальніцы ў Шаркоўшчыне.**

Зараз на гэтым аб'екце – сапраўдны аўрал і сканцэнтравана 10 розных будаўнічых арганізацый. На яго здачу ў эксплуатацыю з абласнога бюджэту выдзелена 18 млрд. рублёў. Пры спрыяльным зыходзе падзей гэту клініку здадуць у сярэдзіне лета, але не выключана, што і глыбокай восенню. Бальніцы ў Шаркаўшчыне на пашанцавала з самага пачатку, бо акрамя фундамента нічога 6 гадоў тут не было. Потым з-за недахопу грошай работы на аб'екце то ішлі, то спыняліся. Ды і зараз ад першапачатковай задумы мала што засталося, а з намечаных 165 ложкаў для лячэння пацыентаў пакінулі толькі 95. У выніку падобнага "абразання" з мэтай скарачэння расходаў засталіся без інфекцыйнага і радзільнага аддзяленняў, абсталююць толькі радзільную залу. У самой райпаліклініцы таксама размясціліся іншыя падраздзяленні ЦРБ. На заключным этапе работ неабходна пабудаваць гаражы, пральню і аддзяленне дэзінфекцыі. У лячэбным корпусе ідуць аддзелачныя работы, неўзабаве пачнецца добраўпрадкаванне і асфальтаванне тэрыторыі. Праўда, каб кампенсаваць перажытыя раней медыкамі цяжкасці, пастараюцца аснасціць райбальніцу сучасным медабсталяваннем. Дагэтуль прыходзілася працаваць ім фактычна ва ўмовах дзейнасці пачатку мінулага стагоддзя. Яшчэ адзін падобны аб'ект-доўгабуд, таксама райбальніца, па іроніі лёсу доўга ўзводзіцца ў суседніх Мёрах.

## Браслаўскі раён

# Падыходы не гаспадарскія

■ Чэслаў Якубовіч

**Як і чакалася, пазачарговая сесія раённага Савета дэпутатаў аднадушна зацвердзіла днямі спушчаную зверху кандыдатуру новага кіраўніка Браслаўскага раёна Сяргея Шматава.**

Гэта ў суседняй Расіі цяпер зноў губернатараў і глаў мясцовых адміністрацый будуць выбіраць самі расіяне. У нас дзейнасць папярэдняга старшыні райвыканкама Пятра Гішкелюка не задаволіла аблыканкам і кіраўнік вобласці падабраў сабе новага, папярэдне ўзгадніўшы прызначэнне са сталіцай. Такім чынам начальнік аднога з аддзелаў аблвыканкама, ураджэнец Смаленскай вобласці стаў браслаўчанінам, узваліў на свае плечы цяжкую ношу. Праўда, азёрны край населены ў асноўным шчырымі, працалюбівымі, адкрытымі людзьмі, пераважна каталікамі і старaверамі. І сам раён не толькі адзін з прыгажэйшых у Беларусі, але і з багацейшымі прыроднымі рэсурсамі для развіцця нацыянальнай зоны адпачынку і турызму. Аднак, як адзначалася на мінулай сесіі, на Браслаўшчыне неабходна мяняць становішча спраў фактычна ва ўсіх сферах. Па ўзроўню ж заробкаў людзей раён адзін з апошніх у вобласці і краіне. Прамысловасць і сельская гаспадарка таксама не радуюць канчатковымі вынікамі: сёлета з пачатку года выкананы толькі 3 з 19 асноўных прагнозных паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця рэгіёна. Азёрны край стаў пагранічным раёнам, зонай бязвізавага перамяшчэння з Латвіяй. Суседзі не могуць зразумець, чаму ў гэтым краі з 200 вялікімі азёрамі НАВАТ рыбу на перапрацоўку на рыбзавод прыходзіцца закупляць і завозіць з Астраханскай вобласці.

## Пастаўскі раён

# Што ўбачу – украду

■ Кастусь Александровіч

**Разам з падзеннем жыццёвага ўзроўню людзей паўсюдна стаў назірацца цяпер у глыбінцы прыкметны рост крадзяжоў.**

Не стаў выключэннем і Пастаўскі раён, дзе сёлета колькасць такіх зарэгістраваных злачынстваў амаль падвоілася і склала ў 1-м квартале 52 крымінальныя справы (летась было 28). Характэрна, што ў самім райцэнтры крадуць у асноўным маладыя гараджане, якія нідзе не працуюць і не вучацца. Адзін з іх пасля добрага падпітку раніцай на рынку скраў красоўкі, але быў затрыманы пільным прадаўцом. Двое пастаўчан ва ўзросце 23 і 24 гадоў «спёрлі» нават 33 метры кабелю з сеялак райаграсервіса. Пры спробе ўкрасці з малочнага завода металічную ёмістасць на 600 літраў былі затрыманы міліцыяй яшчэ двое іх равеснікаў. Аднак пік крадзяжоў перамясціўся ўсё ж у сельскую мясцовасць. Там найбольш крадуць з вёсак і хутароў у першую чаргу вырабы з металалому і каляровыя металы на продаж, грошы і харчаванне - на закуску. Таксама ў аматараў лёгкай нажывы попытам сталі карыстацца і мабільныя тэлефоны (9 спраў), будаўнічыя матэрыялы. У глыбінцы актыўна сталі красці і бензапілы, розныя электраінструменты, а таксама запасныя часткі да аўтамабіляў. З надыходам вясны варта вяскоўцам паклапаціцца пра захаванне сваіх веласіпедаў, бо на іх узнік сезонны попыт.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 26.04.12 | | | | Пятніца 27.04.12 | | | | Субота 28.04.12 | | | | Нядзеля 29.04.12 | | | | Пнд. 30.04.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +12 | +13 | +18 | +12 | +8 | +14 | +21 | +16 | +12 | +18 | +24 | +18 | +14 | +17 | +20 | +16 | +10 | +12 | +17 |
| Ціск | 743 | 746 | 748 | 750 | 751 | 753 | 752 | 752 | 753 | 754 | 753 | 753 | 753 | 754 | 753 | 751 | 752 | 754 | 753 |
| Вільготнасць | 94 | 89 | 45 | 74 | 84 | 72 | 44 | 76 | 90 | 81 | 47 | 73 | 90 | 85 | 70 | 75 | 89 | 78 | 46 |
| Вецер м/сек | 1 С-З | 5 З | 3 З | 2 З | 1 Ю | 4 Ю | 4 Ю-З | 3 З | 1 Ю | 5 Ю-З | 5 З | 4 З | 4 С-З | 2 С-З | 3 С-В | 4 С-В | 6 С-В | 2 С-В | 2 В |

# Лічба нумара

**1,5%** - на такі сярэднямесячны ўзровень росту цэн у Беларусі разлічваюць спецыялісты Міністэрства эканомікі выйсці сёлета да канца года. Менавіта галапіруючая інфляцыя – гэта самае страшнае зло, з якім прыйшлося сутыкнуцца апошнім часам і нашаму грамадству, і простым беларусам. Справа ў тым, што ў краінах з рынкавай эканомікай, такі паказчык росту тарыфаў, паслуг, цэн на паліва, іншыя тавары здараецца рэдка і нават на працягу цэлага года. У адваротным выпадку на чарговых выбарах правячая партыя альбо кааліцыя церпіць паражэнне і ідзе ў апазіцыю.У сусветнай практыцы сутыкаюцца з такой з'явай, як дэфляцыя, альбо паніжэнне інфляцыі.

Як вынікае з айчынных рэалій, нам да такіх з'яў пакуль яшчэ як да Паўночнага полюса дайсці пяшком. Рост цэн сёлета ў Беларусі за студзень-сакавік перавысіў ужо 5 %, нягледзячы на жорсткае іх адміністраванне . Адны толькі цэны на бензін і дызельнае паліва ў нас павышаліся двойчы на 10 % і болей. Эксперты прагназуюць, што і далейшага падвышэння цэннікаў на беларускіх АЗС пазбегнуць немагчыма, паколькі гэта сусветная тэндэнцыя. Нашы цэны на паліва меншыя, чым у суседзяў расіян і з-за гэтага існуе праблема вывазу нафтапрадуктаў на продаж у РФ і іншыя дзяржавы.

Акрамя паліўнага фактара прайшло прадугледжанае павышэнне тарыфаў на перавозкі пасажыраў грамадскім транспартам і шэраг іншых тавараў. Рост нацыянальнай інфляцыі выклікала і запланаванае змяненне ў бок павелічэння тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі. І ўпраўленцы не ўтойваюць, што такое ў нас планавалася загадзя, адзінае , што прайшло раней, чым раней меркавалася з-за пагаршэння эканамічных паказчыкаў дзейнасці прадпрыемстваў гэтых галін.

Адначасова абяцанай лібералізацыі цэнаўтварэння ў нашай краіне не будзе, што выклікае незадавальненне нашых асноўных гандлёвых партнёраў і саюзнікаў з Расіі. Беларусы па-ранейшаму адсочваюць многія таварныя групы і вось парадокс, цэны, нібы скакуны, увесь час растуць. Кожнаму разумнаму чалавеку зразумела, што калі за год інфляцыя перавышае 10 % - гэта сведчыць аб дрэнным развіцці эканомікі краіны і няўменні яе ўрада адказваць на выклікі XXI стагоддзя. Сапраўды, калі ў нас зноў далдоняць аб маштабнай задачы дасягнуць ўзроўню зарплаты 500 долараў, то становіцца сумна.

Для большасці дзяржаў і нават нашых бліжэйшых суседзяў – гэта даўно пройдзены этап.

Мы ж у гэтым годзе будзем вырашаць чарговую праблему, каб да восені завяршыць рэканструкцыю і тэхнічнае пераўзбраенне 1200 жывёлагадоўчых ферм, прыкладна чацвёртую частку ад існуючых цяпер кароўнікаў. Туды загадана паставіць дадаткова яшчэ амаль 79 тысяч галоў статку. На наступны год прыярытэтам стане маштабная меліярацыя, а фермы ўслед за аграгарадкамі адыдуць на другі план, на водкуп саміх гаспадарак. Пры гэтым цяпер спажыўцы з раніцы займаюць чэргі ў малочных магазінах, каб купіць танней кефіру і тварагу па сацыяльных цэнах, бо астатнія ўжо кусаюцца.

Заробкі асабліва ў рэгіёнах у людзей мізерныя, пражыць работнікам за 200-250 долараў цяжка, бо ўсё даражэе. І так будзе і далей, паколькі да канца года інфляцыя ў Беларусі можа скласці нават запланаваныя 22 %. Тым часам ідуць перамовы з інвестарамі аб набыцці імі 8 беларускіх прадпрыемстваў, вызначаных прэзідэнцкім указам для прыватызацыі. Актывы аднаго з флагманаў айчыннай эканомікі, сталічнага МАЗа былі ацэнены ў 1,095 млрд. дорлараў і ён, магчыма, у бліжэйшы час усё ж увойдзе ў склад холдынга "Расбелаўта" са штабкватэрай у Маскве.

На гэтым фоне амаль два месяцы доўжыцца "харчовая вайна" з Украінай, куды беларускае мяса і малако не пастаўляецца, а ўкраінцы сталі патрабаваць аблягчэння ўмоў паставак свайго піва. Для радавога спажыўца ўсё гэта не так цікава. Ён прыходзіць у краму і бачыць канкрэтныя цэны, а ў кашальку заробленых грошай не прыбаўляецца. Таму супрацьстаяць паўзучай інфляцыі, асноўнаму злу ў Беларусі можа толькі рост рэальнай заработнай платы, павышэнне пенсій і стыпендый. Іншая справа, што слаба ў гэта штосьці верыцца, бо ў нас па-ранейшаму жыццё без асаблівых перамен да лепшага…

## Дзень за днём

**З пачатку года за студзень-сакавік рост цэн у Беларусі склаў ужо 5 %, на столькі ж другі раз сёлета падаражэлі бензін і дызельнае паліва. Кошт навучання ў айчынных ВНУ павялічыўся на трэць. У ходзе "паветранай вайны" Расія забараніла "Белавіі" лятаць самалётамі ў Санкт-Пецярбург, Сочы, Калінінград, іншыя рэгіёны РФ, за выключэннем Масквы. Прадстаячыя парламенцкія выбары ў Беларусі нічым не будуць адрозніваца ад папярэдніх. Цяперашняя Палата прадстаўнікоў была бязлікай, за час сваёй дзейнасці яна самастойна не распрацавала ніводнага законапраекта. Кошт пуцёвак для беларусаў у летнія аздараўленчыя лагеры сёлета павялічыцца амаль у 2 разы.**

## Важнейшыя навіны свету

**Ізраіль.** Вучоныя краіны прыдумалі ўніверсальную вакцыну супраць раку, яна здольная падаўляць моцныя болі і вылечваць пухліны малых памераў на ранняй стадыі хваробы.

**Сірыя.** У правінцыі Хама ў цэнтры краіны ў выніку атак урадавых войск толькі за адзін дзень было забіта больш 100 чалавек, па дадзеных ААН, колькасць ахвяр там ужо 9 тысяч.

**ЗША.** Узровень беспрацоўя вясной тут знізіўся да 8,2 %, што радуе Б. Абаму перад выбарамі восенню, а вось у ЕС на рынку працы рост да 10,8 % колькасці беспрацоўных.

**Расія.** На заводзе "АўтаВАЗ" у Тальяцці пачалі з удзелам У. Пуціна выпуск сумесна з Renault і Nissan новых аўтамабіляў-універсалаў Lada Larqus для расійскага аўтарынка.

**Пакістан.** У выніку сходу магутнай снежнай лавіны з ледніка ў Гімалаях на граніцы з Індыяй загінулі рана раніцай 135 салдат з высакагорнага батальёна пакістанскай арміі.

**Украіна.** Еўрасаюз згадзіўся на прызнанне вынікаў новых выбараў у Раду і без удзелу ў іх асуджаных Ю. Цімашэнкі, іншых лідараў апазіцыі, яна набярэ да 35 % галасоў украінцаў.

**Венесуэла.** Падчас выступлення прэзідэнт Уга Чавес ледзь не расплакаўся і папрасіў Хрыста захаваць яму жыццё, медыкі сведчаць аб яго новых ракавых пухлінах у целе.

**Малдова.** Улады пазбавілі ліцэнзіі на вяшчанне буйнейшы малдаўскі апазіцыйны тэлеканал NIT за незахаванне прынцыпаў палітычнага плюралізму, аднабокую пазіцыю.

**Японія.** Некалькі чалавек загінулі, каля тысячы былі паранены ў выніку самага магутнага за апошнія 50 гадоў тайфуну, быў паралізаваны рух транспарту на поўначы краіны.

**Венгрыя.** Паблізу Будапешта 23-гадовы жыхар вёскі Керч засек мячом да смерці ў сваім доме бацьку, брата, дзеда з бабай, параніў яшчэ траіх родных, злачынцу схапіла паліцыя.

**Турцыя.** У дрэннае надвор'е рухнуў мост працягласцю 150 м праз раку ў правінцыі Зонгулдак, у ваду ўпалі некалькі аўто, мікрааўтобус, 5 пешаходаў, 15 чалавек прапалі.

**Грузія.** Улады краіны пераўтварылі дзяржаўны музей Сталіна ў Горы (47 тыс. экспанатаў) у музей ахвяр сталінізму, у 5 грузінскіх гарадах дэмантаваны помнікі дыктатару СССР.

**Англія.** Эксперты штодзённай брытанскай газеты "The Teleqraph" абнавілі рэйтынг 21 самага нязграбнага будынка свету, пад № 8 знаходзіцца Нацыянальная бібліятэка РБ.

**Расія.** У краіне прагучалі заклікі да зыходу з пасады патрыярха Кірыла за "лжэсведчанне", бо ён, сапраўды, надзяваў супердарагі гадзіннік фірмы Brequet коштам 30 тысяч долараў.

**Германія.** У лясным масіве паблізу Мюнхена гаспадыня адшукала свайго ката, які прапаў 16 гадоў назад, але выжыў дзіўным чынам, блукаючы пасярод лесу ў дзікай прыродзе.

## Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Глуск.** На тэрыторыі раёна спецыялісты РУП "Белгеалогія" знайшлі новыя буйныя залежы лёгкай, рухомай нафты добрай якасці і з высокім утрыманнем спадарожнага газу.

**Мінск.** Многіх мінчан абурылі намеры "Газпрама" пабудаваць на месцы аўтавакзала "Маскоўскі", адкрытага толькі ў 1999 годзе, свой новы беларускі офіс-хмарачос.

**Рэчыца.** Прыхаджане царквы Раства Багародзіцы ў вёсцы Коз'е не пусцілі ў храм вышэйстаячае царкоўнае качальства, якое хацела перадаць прыход іншаму святару.

**Мінск.** У адкрытым доступе 2 мая Мінскі завод пеністых він пачне продаж сваіх акцый жадаючым па цане адной 171,4 тысячы рублёў, яго работнікі гатовы купіць па 10-50 штук.

**Салігорск.** Самым паспяховым вытворцам краіны стаў "Беларуськалій", прыбытак адной з буйнейшых у свеце айчыннай фірмы летась склаў 880 мільёнаў долараў і павялічыўся ў 1,5 разы.

**Гродна.** У абласным цэнтры затрымалі 37-гадовага мужчыну, які за грошы аказаў сексуальныя паслугі абдзеленым ласкамі 8 дамам, ён заплоціць штраф 1,5 мільёна рублёў.

**Мазыр.** Экспартна-імпартны банк Кітая прадаставіў крэдыт у суме 186,6 мільёнаў долараў для ўзвядзення на тэрыторыі раёна содавага завода магутнасцю да 300 тысяч тон соды ў год.

**Мінск.** Беларусь, як заявіла рэдактар газеты "Туризм и отдых" Л. Кобзік, зусім не цікавая для заходніх турыстаў, летась іх прыехала 25 тысяч, з іх 6 - з суседніх Літвы і Польшчы.

**Асіповічы.** Падчас знаёмства з замежнай прыватнай фабрыкай "Сонца" прэзідэнт краіны А. Лукашэнка запатрабаваў паўсюдна ў РБ да 9 мая навесці ідэальны парадак, як на гэтым прадпрыемстве.

**Пружаны.** У стане афекту 24-гадовы майстар лясгаса, якога ігнаравалі і падсмейвалі падначаленыя, нажом параніў свайго рабочага, калі не сцярпеў чарговай здзекі над сабой.

**Баранавічы.** Праз 10 гадоў дзяржпрадпрыемства выявіла падман, у 2002 годзе прыняла на працу сюды мужчыну з фальшывым дыпломам маскоўскага ВНУ, які ён купіў у Расіі.

**Брэст.** На ўваходзе ў музейны комплекс "Брэсцкая крэпасць-герой" мярзотнікі скралі металічную пліту, зімой у абласным цэнтры знік памятны знак на пешаходнай вуліцы.

**Мінск.** Беларусь ледзь не стала адзінай у Еўропе краінай, дзе ніводзін канал тэлебачання не транслюе матчы свайго нацыянальнага чэмпіянату па футболе ў элітнай лізе.

**Нясвіж.** У мясцовым замку кінастудыя "Беларусьфільм" пачала здымкі ваеннагістарычнага серыяла "Смерш" пра падзеі вайны з удзелам вядомых расійскіх артыстаў.

**Мінск.** Служба маркетынгу і рэкламы ХК "Дынама-Мінск" паведаміла аб павелічэнні цэн на ўваходныя білеты ў новым сезоне ў 1,5 разы, у Еўропе мінчане 2-ія па колькасці публікі

## Прыняцце ўказа прэзідэнта № 184 дазволіць атрымаць дакрэдытаванне на будаўніцтва жылля



■ Андрэй Кажамякін, БелаПАН

**Прыняцце ўказа прэзідэнта № 184 дазволіць атрымаць дакрэдытаванне на будаўніцтва жылля прыкладна 15-16 тысячам беларускіх сем'яў. Пра гэта паведаміў начальнік упраўлення жыллёвага будаўніцтва Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва Аляксандр Горваль 19 красавіка на прэс-канферэнцыі ў Мінску.**

Паводле яго слоў, гэта тыя сем'і, якія заключылі дагаворы з «Беларусьбанкам» на атрыманне льготных крэдытаў да ўваходжання ў сілу ўказа ад 6 студзеня 2012 года № 13 «Аб некаторых пытаннях давання грамадзянам дзяржаўнай падтрымкі пры будаўніцтве (рэканструкцыі) або набыцці жылых памяшканняў», і з увядзеннем гэтага дакумента не трапілі ў пералік ільготных катэгорый грамадзян. Указ дае права гэтым сем'ям дакрэдытавацца па заключаных раней дагаворах на ўмовах, на якіх былі заключаны гэтыя дакументы. У прыватнасці, захоўваюцца працэнтныя стаўкі, пад якія яны крэдытаваліся, прадугледжаны перагляд самых памераў крэдытаў у сувязі са зменай кошту жылых памяшканняў.

«Гэта дазволіць вырашыць праблему дафінансавання жылля для тых, хто знаходзіцца ў стадыі будаўніцтва, і для будаўнічых арганізацый, якія атрымаюць дадатковыя фінансавыя рэсурсы праз сістэму льготнага крэдытавання і змогуць своечасова ў адпаведнасці з графікамі 2012 года завяршыць будаўніцтва жылля», — сказаў Горваль. Паводле яго слоў, на дакрэдытаванне затрачана прыблізна 2 трлн. рублёў.

Прадстаўнік Мінбудархітэктуры растлумачыў прымяненне ўказа на прыкладзе сям'і з трох чалавек, якая заключыла дагавор на атрыманне льготнага крэдыту ў 2010 годзе. Нарматыў крэдытавання — 20 кв. м. Кошт квадратнага метра жылля тыповых спажывецкіх якасцяў для тых, хто мае патрэбу, быў прыблізна 1 млн. рублёў. Можна было аформіць крэдытны дагавор на 60 млн. рублёў. «Пры цяперашнім кошце — прыблізна 3 млн. рублёў за квадратны метр жылля — розніца складае 2 млн., памножыць іх на 60 метраў, атрымліваецца 120 млн. Гэта значыць, калі не павялічваць крэдытную лінію, то грамадзяніну трэба было даплаціць 120 млн.», — сказаў Горваль.

Указ таксама дэталізуе ўмовы, паводле якіх ваеннаслужачыя і асобы, да іх прыраўнаваныя, будуць крэдытавацца і атрымліваць фінансавую падтрымку дзяржавы.

## Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Пленум абкама прафсаюза работнікаў аховы здароўя раскрытыкаваў нізкі ўзровень аплаты працы кваліфікаваных медыкаў, меншы, чым у рабочых без адукацыі.

**Талачын.** Дзяржкантроль прыцягнуў да адказнасці начальніка аддзела ЖКГ райвыканкама за адсутнасць рэагавання на крытыку ў СМІ, па вобласці пакаралі за гэта 5 чыноўнікаў.

**Паставы.** Ваеннаслужачым в/ч 1257 паведамілі, што ім, як і супрацоўнікам МУС і КДБ, часова абмежаваны выезд з Беларусі ў краіны Еўрасаюза і нават у Егіпет і Турцыю.

**Глыбокае.** На рамонт інтэрната прафліцэя з бюджэту вобласці выдзелілі яшчэ каля 3 мільярдаў рублёў, тут плануецца размясціць і карміць частку гасцей Дня беларускага пісьменства.

**Шаркаўшчына.** Райбальніца атрымала новы аўтамабіль хуткай дапамогі, сабраны ў Віцебску на СП "Грандыскар" на шасі "Фольксвагена",гэту тэхніку атрымалі яшчэ 3 ЦРБ.

**Наваполацк.** Самым папулярным у рэгіёне стаў новы сучасны Дом абутку "Бярозка" з асартыментам больш 3 тысяч штук. Да канца года тут будзе прададзена абутку да 20 тысяч пар.

**Гарадок.** Асаблівасцю веснавой сяўбы ў паўночным раёне з супясчанымі землямі стала пашырэнне амаль на 20 % пасеваў кармавой кукурузы, а таксама пшаніцы і аўса.

**Браслаў.** Азёрны край узначаліў новы старшыня райвыканкама ўраджэнец Смаленшчыны Сяргей Шматаў, да прызначэння на гэту пасаду ён працаваў у Віцебскім аблвыканкаме.

**Верхнядзвінск.** На дарозе з райцэнтра на Расію супрацоўнікі ДАІ затрымалі іншамарку, на якой 30-гадовы беспрацоўны перавозіў без дакументаў 10 тысяч пачак цыгарэт.

**Новалукомль.** Днём п'яны 30-гадовы хлопец упаў з маста ў возера, яго выцягнуў з халоднай вады і выратаваў ад гібелі выпадковы прахожы, бетоншчык Аляксандр Мацвееў.

**Віцебск.** З калоніі "Віцьба-3" па рашэнню абласнога суда палітвязня Сяргея Каваленку накіравалі ў Рэспубліканскі псіхіятрычны шпіталь для комплекснага абследавання.

**Полацк.** Мытнікі затрымалі калекцыю з больш 100 старажытных манет і банкнот, якія грамадзянін Польшчы хацеў вывезці за мяжу без дэкларацыі ў кабіне сваёй фуры Skania.

**Віцебск.** На беларускай мове нунцый Ватыкана архібіскуп К. Уджэроцці адслужыў у кафедральным касцёле Езуса Міласэрнага літургію з удзелам усіх ксяндзоў вобласці.

**Паставы.** Ад праходнай спіртзавода ў гарпасёлку Лынтупы без шуму ўбралі помнік Леніну, які стаяў тут, у самім райцэнтры такі манумент работы Азгура паўстаў у жніўні 1991 г.

**Гарадок.** Раённы суд пакараў затрымананага рэйдавай групай на возеры Ціоста жыхара Віцебска за незаконную лоўлю рыбы сеткамі штрафам у агульнай суме 3,4 мільёна рублёў.

*Служба інфармацыі "ВГ".*



■ Фадзей Шымуковіч, *краязнаўца, г. Дзісна.*

# Шчасце! У чым яго сутнасць?

**Жыць сярод людзей і для людзей – гэта азначае бачыць сябе вачамі грамадзяніна, умець ацэньваць сябе з пункту гледжання інтарэсаў грамадства. Развітае грамадзянскае сумленне – гэта плоць і кроў калектывізму. Яно зацвярджаецца, калі чалавек з малых гадоў, фарміруючыся ва ўмовах калектыўнай дзейнасці, творчасці, аддае ўсё лепшае, што ў ім ёсць, іншым людзям, быццам творыць сябе ў другім чалавеку, імкнучыся паўтарыць толькі лепшае.**

*У.Сухамлінскі*

**Шчасце – гэта спакойны дух у здаровым целе.**

*Эпікур.*



Згодна "Словаря русского языка" Ожагава, шчасце – гэта пачуццё і стан поўнага, вышэйшага задавальнення, поспех, удача.

У наш час часта ў бытавых абставінах ад многіх асоб можна пачуць нараканне на тое, што чалавека пакінула шчасце. Так і хочацца "нешчаслівцу" задаць некалькі пытанняў: ці не хворыя Вы? Ці можа галодныя? Ці няма дзе жыць? І так далей. Аказваецца, усё быццам ёсць, хоць не ў той колькасці і такой якасці, як бы яму хацелася. У многіх ёсць асабістыя аўтамабілі і іншыя прадметы выгоды. Але чалавек усім гэтым не задаволены, лічыць, што яго абышла ўдача. А вось у іншых зусім па-другому, усяго ў дастатковай колькасці. Але калі заходзіць размова аб тым, што ўсе матэрыяльныя і культурныя даброты спачатку неабходна стварыць, а створанае зарабіць, адразу звяртаемся да "закона", быццам па якому нам усё гэта належыць. У ход ідзе невядома кім абвешчаная ідэя "Узбагачайся і весяліся", якая, на жаль, настойліва рэкамендуецца ўсімі СМІ, асабліва электроннымі.

А можа Вы пазбаўлены свабоды дзеянняў? Пытанне вельмі складанае. Што мы павінны разумець пад свабодай? Яшчэ ў другой палове XIX стагоддзя знайшліся прыхільнікі, якія прапагандавалі жыць не так, як патрабуе грамадства, а як душа-душанька загадвае. Адзін з прыхільнікаў такой "свабоды" вядомы рэжысёр Судзержыцкі быў раскрытыкаваны Л.М.Талстым. Леў Мікалаевіч у сваім пісьме задаў яму пытанне: "У чым сэнс слова свабода? Што ты, як папугай, усё паўтараеш адно слова – свабода, свабода, а дзе, у чым яго сэнс? Калі ты даб'ешся свабоды ў тваім сэнсе, як ты ўяўляеш, – што будзе? У філасофскім сэнсе – бяздонная пустыня, а ў жыцці, у практыцы – станеш ты гультаём і пабіронцам. Што цябе, свабодная ў тваім сэнсе звязвае з жыццём, з людзьмі? Вось птушкі свабодныя, а ўсёткі гнёзды ўюць. Ты нават гнязда віць не будзеш, задавальняючы палавое пачуццё тваё дзе папала, як кабель. Падумай сур'ёзна і ўбачыш – адчуеш, што ў канчатковым сэнсе свабода – пустата, бязмежжа… Мы ўсе шукаем свабоду ад абавязкаў да бліжняга, тады як пачуццё гэтых абавязкаў да бліжняга зрабіла нас людзьмі, і калі б не было гэтых пачуццяў – жылі б як звяры".

Суддзя Фрунзенскага раёна г. Мінска Жана Жукоўская адзначае, што больш 90% крымінальных спраў па здзейсненых злачынствах зроблены асобамі, якія лічылі, што ім усё дазволена, асабліва ў стане алкагольнага альбо наркатычнага ап'янення. Адбываецца страшэнная дэградацыя чалавека, які ўяўляе сабе, што ўсе праблемы можна вырашыць з пазіцыі сілы, з пазіцыі ўсёдазволу, з пазіцыі свабоды ў сваіх дзеяннях, ператварыўшы гэты пастулат у жыццёвую пазіцыю, якая з'яўляецца амаль што прадметам асабістага гонару, асабістага шчасця. Людзі з такімі крэда асабліва небяспечныя для грамадства, і як правіла, ніколі не бываюць па-сапраўднаму шчаслівыя. Прыносячы няшчасце другім, нельга быць шчаслівым самаму.

Калі мы разбегліся па "нацыянальных кватэрах", г.зн. з развалам СССР, мы вызваліліся не толькі ад таталітарызму, на жаль, мы "вызваліліся" ад сораму, сумлення і многіх іншых маральных прынцыпаў, выпрацаваных чалавецтвам на працягу многіх стагоддзяў. Сёння слова "сорам", як і многія іншыя з гэтай катэгорыі, стала амаль зняважлівым. Мы хочам бачыць шчасце ў імкненні да свабоды, усёдазволу. Мы абвясцілі лозунг "Узбагачайся і весяліся". На першы погляд у ім нічога амаральнага няма. Таму што ўся чалавечая дзейнасць накіравана на стварэнне матэрыяльных і маральных даброт. Але пытанне ў іншым, якім шляхам, якімі сродкамі ўсё гэта ствараецца і як яно размяркоўваецца сярод кожнага члена нашага грамадства? Як усё гэта багацце садзейнічае развіццю і станаўленню маралі кожнага чалавека і грамадства ў цэлым? Ці не рухаемся мы да адзічання грамадства? Пісьменнік Фазіль Іскандэр усё гэта адлюстраваў у сваім вершы так:

*"Куда ни сунься – всюду хам.*
*Что остаётся делать нам?*
*Как хамскую умерить прыть?*
*Попробуйте перехамить!"*

А можа мы ў многіх выпадках і дзейнічаем вось такім чынам? На хамства адказваем хамствам і задаволены сабой, забываючыся аб тым, што, здымаючы са свайго сумлення путы маралі, здзяйсняем самае страшнае зло – разбураем тую гармонію ўзаемаадносін паміж людзьмі, без якой не можа быць шчасця ні асобнага чалавека, ні грамадства ў цэлым. Мы абавязаны памятаць, што свабода, якая ахоўвае інтарэсы не толькі мае, але любога другога чалавека ў межах, якія ўстаноўлены маральнымі нормамі, ёсць тое добра, якое прыносіць чалавеку шчасце.

Сумленне перашкаджае чалавеку жыць так, як ён гэтага хоча. Ён павінен стрымлівацца і аглядвацца на іншых, аўтаматычна помніць, што ёсць грамадская думка, якая дае адзнаку яго паводзінам. А такія "тармазы" мала каго задавальняюць, асабліва, калі чалавек пры пасадзе. Ці мала мы ў сваім жыцці сустракаем такіх унтараў Прышыбеевых, ды калі ён яшчэ ў спадніцы. Вось і выходзіць, замест волі – гуляй поле, замест гармоніі ў адносінах паміж людзьмі – безупынныя стрэсы. Адно няшчасце, і стварылі яго мы самі, часам таго жадаючы, а часам і спецыяльна насаліць, нахаміць другому чалавеку.

Наша ўменне валодаць сабой вельмі абмежавана. Любы мудрэц зусім не адгароджаны ад уздзеяння страсцей, ён толькі ўмее імі валодаць, тады як іншыя людзі, наадварот, падпарадкоўваюцца іх уладзе самі. Ён, як і іншыя, не можа лічыць сябе свабодным, будучы закаваным нормамі маральных паводзін, але душа яго захоўвае спакой і высакароднасць, незалежнасць ад абставін. Чалавек, які не навучыўся валодаць сабой, вельмі часта ў складаных сітуацыях адчувае сябе няўпэўненым, незадаволеным сабой і нешчаслівым у гэтыя хвіліны.

Калі прасачыць у жыццёвых сітуацыях за чалавекам, які ўмее трымаць сябе з годнасцю і параўнаць яго з іншымі, чыя годнасць сумніўна, то кідаецца ў вочы яго высокая годнасць ва ўсіх яго паводзінах. Упэўненасць, спакой нават тады, калі ён пападае ў складаную сітуацыю. А якая ўмеранасць у сваім поспеху, менавіта ўмеранасць пры ўпэўненасці. У той час, як у другога адразу кідаецца ў вочы яго блізарукасць у поглядах, нізасць у выбары сродкаў пры дасягненні мэты, страх быць выяўленым пры гэтым. Маладушнасць пры няшчасці і якая нахабнасць пры поспеху.

Калі дакапацца да прычын самых звычайных людскіх няшчасцяў, то мы ўбачым, што ў большасці мы павінны самі. Скардзімся на лёс, а калі разабрацца, то і выявіцца, што самаму лёсу з намі ой, як цяжка. "Лёс ад нараджэння да смерці кожны чалавек тчэ нітку за ніткай, як павук сваю павуціну. Калі апошняя нітка сатканая, і чалавек, як бы абгорнуты ў сетку сваіх дзеянняў, бачыць сябе цалкам ва ўладзе лёсу, ім самім складзеным", – пісала Алена Блаватская. Зразумела, бываюць выпадкі бедаў ад нас незалежных, але калі звярнуць увагу на ступень зла, якую гэтыя беды прыносяць, то заўсёды аказваецца, што велічыня гэтай ступені зла залежыць ад нас саміх, ды і самі беды мы наклікаем сваімі неаглядными паводзінамі: выпіў, закусіў, лёг у ложак, заснуў, спаліў дом і згарэў сам.

На жаль, у жыцці мы сустракаем больш бяды, чым радасці. Мучэнні нашы могуць працягвацца гадамі, тады як радасці скарацечныя. Мы стараемся прадоўжыць іх, наколькі гэта ў нашай сіле, і нярэдка падобным ненатуральным лішкам ператваем у гора і іх. Сапраўднае шчасце можам мы адчуць і адчуць хутчэй пры спакойным, чым пры ўзбуджаным стане душы. Звычайна мы ў такія хвіліны адчуваем духоўнае прасвятленне. Для нас вельмі цяжка бывае прыпыніцца на гэтай залатой сярэдзіне, і мы часта або да яе не даходзім, або наадварот, пераходзім яе лішнім хваляваннем, але тым не менш, патрэбна імкнуцца да яе, не забываючыся, што сам Творца стварыў нас не для таго, каб мы знаходзіліся ў стане вечнага заспакаення, а наадварот, уклаў у нас жаданне дзейнасці, без якой мы не можам быць шчаслівыя. Але пры гэтым патрэбна помніць, што Творцу патрэбна толькі тая наша дзейнасць, якая на дабро чалавецтва. Не можа быць шчаслівым чалавек, калі бачыць нешчаслівым свой народ. Народ можа быць шчаслівым пры поўным захоўванні Дэкларацыі правоў чалавека, а не падменай дэкарацыі гэтых правоў.

Думаю, што вышэйшым шчасцем для чалавека ёсць той стан, калі ты разумееш, што ты, твая работа, тваё жыццё патрэбны членам тваёй сям'і, блізкім, суседзям, людзям наогул і дзяржаве.

# У цэнтры Глыбокага шалёная андатра напала на дзяўчыну

**Здарэнне адбылося каля будынку райвыканкама 20 красавіка 2012 г.**

Ад жывёліны дзяўчыну абараніў хлопец, якому ўдалося забіць андатру. Міліцыянт, які дзяжурыў у будынку райвыканкама, выклікаў «хуткую дапамогу». Пасля высветлілася, што андатра была хворая на шаленства.

Як паведамілі ў Глыбоцкай санстанцыі, дзяўчына ад укусаў не пацярпела, звер паспеў парваць на ёй толькі куртку.

У Глыбокім, у сувязі з запланаваным правядзеннем Дня беларускага пісьменства, наводзіцца парадак вакол возера ў цэнтры горада, таму, магчыма, будаўнікі разбурылі нару андатры.

*Еўрарадыё*

# Мястэчка Глыбокае



**Аляксандр Івашчонак,** *бакалаўр гісторыі, г.Нэапаль, Італія.*

**Працяг.**
*Пачатак у №4(616) , №5 (617), №6 (618), №7(619), №8(620), №9 (621), №10(622); №11 (623), №12 (624), №13(625), №14 (626), №15 (627), №16 (628) за 2012 год.*

**Публікацыя захоўвае стыль і правапіс аўтара.**

## Адукацыя ў мястэчку Глыбокім

Надышоў час апавесьці пра адукацыю ў мястэчку Глыбокім. Як вядома ў горадзе Глыбокім першыя асяродкі адукацыі ўзьніклі ўжо ў XVI ст., дзякуючы кальвіністам, якія іх закладалі. Аднак у мястэчку Глыбокім яны зьявіліся значна пазьней, а дакладней у другой палове XVII ст. Хто стаяў за ўзьнікненьнем адукацыі ў мястэчку? Адказ вельмі просты – Язэп Корсак. Менавіта ён забавязаў манахаў Кармэлітаў босых, каб яны задбалі аб адукацыі ў мястэчку, але толькі для маладых манахаў.

Як Кармэліты справіліся з гэтым наказам? Вельмі добра! Акрамя зьдзяйсненьня мары фундатара – стварэньня адмысловага мейсца навукі для манахаў пры глыбоцкім кляштары, Кармэліты задбалі таксама і пра адукацыю мяйсцовай шляхты і пра адукацыю мяйсцовых сялян і мяшчан. У гэтым артыкуле варта распавесьці больш падрабязна пра адукацыю простых людзей і шляхты, а пра адукацыю манахаў у глыбоцкім кляштары – у наступным нумары.

### Глыбоцкая прыкляштарная школка

Што сабой уяўляла прыкляштарная школка (szkółka) XVII-XVIII стст.? Перадусім гэта было мейсца, дзе вучылі простых дзяцей перадусім рэлігіі, а таксама чытанью і пісанью, часамі матэматыкі, але толькі лічэньню, таму нават цяжка назваць гэтую ўстанову школай, адсюль і назва – школка. Прыкляштарная школка ўзьнікла ў мястэчку Глыбокім дзякуючы намаганьням айцоў Кармэлітаў дзесьці ў другой палове XVII ст. Першапачаткова гэтая школка налічвала некалькі вучняў – больш-менш каля 10 асобаў, якіх падчас візыту сваіх падданых адзін з манахаў выбіраў, лічучы іх за больш здольных. Забіраў гэтых дзяцей на нейкі пэрыяд часу да кляштару, дзе гэтых дзяцей адзін з манахаў вучыў рэлігіі, пісанью і чытанью, а таксама лічэнью.

У тыя часы навука была вельмі дарагой, таму на адукацыю сваіх дзяцей магла сабе дазволіць толькі шляхта. Аднак глыбоцкія Кармэліты пастанавілі вучыць бедных дзяцей бясплатна, так як усе яны паходзілі са звычайных сямей сялянаў ці мяшчанаў. Гэтая навука была спарадычнай, зазвычай бацькі прысылалі свайго сына на некалькі месяцаў і то ўзімку, бо ўвесну, улетку ці ўвосень простыя людзі шмат працавалі ў полі, а разам зь імі і іх дзеці. Адукацыя ў такога тыпу школе ня мела таксама і класаў, бо дзяцей вучылі толькі пачатковым рэчам, бо перадусім бацькі гэтых дзяцей не былі зацікаўленыя ў далейшай вучобе сваіх дзяцей, так як дзеці былі перадусім памочнікамі сваіх бацькоў падчас цяжкога сялянскага жыцьця. Вельмі часта было так, што пасьля заканчэньня навукі (каля 3-6 месяцаў) гэтае дзіцё вярталася ў сваю вёску, дзе вучылася іншых дзяцей чытанью і пісанью.

Безумоўна, парафіяльная школа не давала вялікіх ведаў, аднак была яна першым узроўнем адукацыі мяйсцовых жыхароў. Вельмі важнай рысай Глыбоцкай прыкляштарнай школы было тое, што яна была бясплатнай і была не для шляхты, але для простых звычайных людзей[1]. Гэтая школка праіснавала аж да 1829 г.



### Глыбоцкая парафіяльная школа

Як ужо было сказана, манахі Кармэліты вельмі клапаціліся ня толькі пра адукацыю сялянаў і мяшчанаў, але такасама пра іх патрыятызм. Пасьля падзелаў Рэчы Паспалітай палітычныя абставіны не спрыялі Глыбачанам пачуваацца грамадзянамі Рэчы Паспалітай, бо ўсё было накіравана на русіфікацыю шляхты і на прыгон сялян. Кармэліты не жадалі з гэтым мірыцца. На пярэдадні паўстаньня 20 студзеня 1829 г. прыёр глыбоцкага кляштара айцец Войцех Пчыцкі заклаў новую школу для дзяцей мяшчанаў і сялянаў. Гэтая школа была дармовай, а акрамя таго вучылі ў гэтай школе вельмі прагрэсіўным мэтадам Болла-Ланкастра. Навука вялася на трох узроўнях: пачатковым, прагрэсіўным і паглыбленым. Навука адбывалася 6 дзён на тыдзень ад панядзелка да суботы. У парафіяльнай школе вучылі рэлігіі, чытаць, пісаць, арыфмэтыцы, адмысловым заданьням для практыкаваньня памяці. Акрамя таго кожную сераду і суботу адбываліся заняткі па фізічнай культуры.

Ня гледзячы на тое, што школа называлася парафіяльнай, аднак яна ня мела вялікай сувязі з глыбоцкім пробашчам і касьцёлам Сьв. Тройцы, бо адказнасьць за гэтую школу цалкам узялі на сябе манахі, таксама як іх кошты ўтрыманьня, адзіне – гэтая школа падлягала нагляду мінскага біскупа. Так, па праўдзе, гэтая парафіяльная школа была працягам прыкляштарнай школкі.

На патрэбы гэтае школы прыёрам было выдзеленае адмысловае памяшканьне кляштара каля кляштарнай аптэкі. Акрамя таго прыёр запрасіў настаўніка, які добра валодаў мэтадам узаемнага навучаньня Болла-Ланкастра. Гэты мэтад палягаў на тым, што настаўнік дзяліў вучняў на некалькі груп, вучыў больш здольных вучняў з гэтых груп, пасьля чаго гэтыя вучні вучылі і тлумачылі сваім аднагрупнікам.

Першым настаўнікам Глыбоцкай парафіяльнай школы быў Томаш Казлоўскі.

Захаваўся таксама сьпіс першых 15 вучняў:
1. Дамінік Сялюта
2. Фрыдэрык Эйзэрман
3. Міхал Цехановіч
4. Юстын Статута
5. Якуб Філіповіч
6. Фэлікс Юшкевіч
7. Ігнацы Пашкевіч
8. Міхал Яноўскі
9. Вінцэнты Лутынскі
10. Бэнэдыкт Баратынскі
11. Людвік Баратынскі
12. Адам Захарэвіч
13. Каетан Каруза
14. Адам Каруза
15. Эдвард Філіповіч

Варта яшчэ раз зазначыць, што вучоба ў гэтай школе была бясплатнай. Акрамя таго манахі клапаціліся аб вучнях, забясьпечваючы іх усім неабходным: ложкам, харчаваньнем, прыладамі да пісаньня, а таксама кнігамі – букварамі і сшыткамі для каліграфіі, а на дадатак кляштар аплачваў працу настаўніка Казлоўскага.

На жаль, школа не праіснавала доўга, так як з-за прычыны забраньня ў 1842 г. царскімі ўладамі ў кляштара ўсіх фундушаў і прыбыткаў, манахі ўжо не былі ў стане ўтрымоўваць вучняў і настаўніка.

### Канвікт Кармэлітаў для шляхэцкай моладзі ў Беразьвеччы

Акрамя адукацыі простага люду, Кармэліты займаліся таксама адукацыяй мяйсцовай шляхэцкай моладзі. Пасьля падзелаў Рэчы Паспалітай Кармэліты былі занепакоеныя ўзрастаючай русіфікацыяй, шмат хто з мяйсцовай шляхты, каб не пасылаць сваіх дзяцей у расейскія школы, пакідалі іх дома, бо большасьць зь іх была не ўстане пасылаць сваіх дзяцей за мяжу. Менавіта таму ў 1800 г. Кармэліты заклалі канвікт – свайго роду інтэрнат, мейсца, дзе жылі і вучыліся шляхэцкія сыны пад кругласутачным даглядам настаўніка. Кармэліты ўфундавалі гэты канвікт для беднай шляхты, якая ня мела грошай на навуку сваіх дзяцей, а акрамя таго вучні гэтага канвікту выхоўваліся ў патрыятычным духу Рэчы Паспалітай.

Дня 12 сакавіка 1804 г. сам імпэратар Аляксандар І падцьвердзіў фундацыю Кармэлітамі гэтага канвікту. На патрэбы канвікту Кармэліты бралі ў арэнду будынак (пасьля выкупілі) і пляц пры кляштары Базыльянаў у Беразьвеччы, а таксама плацілі чынш Базыльянам за выкарыстаньне агарода. Канвікт уяўляў сабой драўляны будынак з сасновага дрэва, быў пакрыты гонтам, складаўся з сяней, двух вялікіх пакояў з бакоўкамі, пякарні з бакоўкай, складам і склепам. Меў 11 вакон, 2 швэдзкія печы і адну цагляную. Акрамя таго для канвікту манахі купілі 3 шафы з унутранымі замкамі для кніжак і бялізны, 4 сталы з шуфлядамі, 14 крэслаў, 11 ложкаў, 3 ліхтары, 2 абрусы, сталовы сэрвіз на 11 чалавек, розныя прылады да пісаньня і дысцыпліну на 5 шнуркоў[2] .

У дадатак Кармэліты паклапаціліся таксама і пра навуковае заплечча канвікту. Манахі купілі 100 кніг для навукі лацінскай мовы, 56 кніг для польскай мовы, 56 расейскай мовы, 64 для францускай і 74 для матэматыкі – усяго разам 350 кніг, як на тыя часы гэта былі вялізарная бібліятэка.

Захаваўся сьпіс вучняў канвікту на 1830 г. Настаўнікам у гэтым часе быў Язэп Польлевіч. Вучні:
1. Людвік Круповіч
2. Адольф Клюшчык
3. Леапольд Казакевіч
4. Гэркульян Каллазоўскі
5. Плацыд Янушэўскі
6. Тадэвуш Верпша
7. Адрыян Гарбоўскі
8. Казімір Пчыцкі
9. Аляксандар Лабуноў
10. Антоні Корсак

Нажаль, канвікт Кармэлітаў напаткаў такі самы лёс, што і парафіяльную школу. Праблемы ўжо пачаліся з-за ўдзелу вучняў у паўстанні 1831 г. супраць расейцаў. У 1839 г. пасьля касацыі вуніі беразьвецкі кляштар Базыльянаў быў перароблены на праваслаўны, лёс канвікта быў няпэўны, аж да 1842 г., калі царскі ўрад адабраў у Кармэлітаў маёмасьць і манахі не былі ў стане ўтрымоўваць канвікт з вучнямі і настаўнікам.

### Падсумаваньне

Глыбокае мае вельмі глыбокія і старыя традыцыі бясплатнай адукацыі. Манахі Кармэліты не былі толькі звычайнымі ўладальнікамі мястэчка, як бачна, ад іх перадусім залежыла развіцьцё мястэчка. Кармэліты будавалі ў Глыбокім фабрыкі, бровары, лядоўні і гд., добраўпарадкоўвалі тэрыторыю – капалі сажалкі, садзілі сады, лекавыя зёлы і гд., разьвівалі культуру – будавалі капліцы, алтары, арганізоўвалі канцэрты і гд., дбалі пра жыхароў – закладалі шкаплерныя брацтвы, клапаціліся аб адукацыі сялянаў, мяшчанаў і шляхты.

На жаль, сёньня Глыбачане нават сабе не ўяўляюць, што страцілі і чыймі нашчадкамі зьяўляюцца.

***Працяг будзе.***



**Дысцыпліна.**



**Дысцыпліны.**



**Настаўнік. Прыкладна так мог выглядаць настаўнік Томаш Казлоўскі.**

Заўвагі:

[1] Варта прыгадаць, што першая разгорнутая сетка бясплатнай публічнай адукацыі на Глыбоччыне зьявілася толькі за польскім часам. Аднак варта памятаць, што глыбоцкія Кармэліты апярэдзілі час, арганізуючы дармовую прыкляштарную школку ўжо ў другой палове XVII ст.

[2] У тыя часы **ДЫСЦЫПЛІНАЙ** называўся адмысловы біч для караньня вучняў.

